Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

Радыкальная часапісь, выходзіць 4 разы ў месяц

Цана асобнага нумару 15 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі
Вільня, Мэтрапалітальны пл. 3/12.
Прыймо інтэрэсантаў ад 10 да 2 г. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

ПАДПІСКА з дастаўкай да хаты на 1 год 4 зл. 50, за паўгоду 2 зл. 40, за 3 месяцы 1 зл. 30, за 1 месяц — 50 гр.

Год II. Вільня, 5 лістапада 1932 г. № 31 (61)

## Кніжку для вёскі!

Абшарніцкі лейб-орган „Слова“ нядаўна з трыумфам адзначаў факт значнага зьмяншэньня лічбы выпусканых у сьвет беларускіх кніжак на землях Заходняе Беларусі. І рэдактар гэтае часопісі ажно захлёбваўся ад радасьці з прычыны гэткага ўпадку беларускае выдавецкае працы.

Цяжкое мусіць быць жыцьцё народу, калі яго культурная творчасьць перастае выяўляцца ў пастаці друкаванага слова.

І запраўды, іжыцьцё беларусаў у Заходняй Беларусі — падвойна цяжкое. Калі крызіс у Польшчы забівае пакупную сілу на кніжку польскага грамадзянства, дык усё-ж польскае грамадзянства непараўнальна багацейшае за беларускае. Палякі маюць сваю, хоць і охкаючую ад крызісу, але-ж яшчэ заможную буржуазію, маюць свае чынавенства, атрымліваючае кожнага 1-га сваю сталую пэнсію. Беларусы сваей буржуазіі ня маюць. Беларусы — гэта сяляне, работнікі, працоўная інтэлігенцыя (у большасьці безработная...). Дык ня дзіва, што—пры шалеючым гаспадарчым крызісе, *калі вёска варочаецца да адвечнае лучыны і лазовых лапцёў* — замест газы і ботаў, — яна ня ў сілах купляць кніжкі, выпісваць газэты ў роднай мове. І для кожнага лёгічна думаючага чалавека ясна, што ўпадак нашае выдавецкае працы ня ёсьць вынікам культурнага ўпадку беларусаў, але — *эканамічнага.*

Выясьняючы прычыну, дзеля якое беларуская кніжка (— як і ўсякая кніжка наагул!) ня мае цяпер ходу на нашай вёсцы, мы маем на думцы не разводзіць жаль з гэтае прычыны, *а пашукаць спосабу дзеля папраўы ўтварыўшагася палажэньня.* Бо-ж лек на хваробу можна знайсьці толькі тады, калі распазнаеш, як сьлед, самую хваробу і прычыну яе.

Гэтак ведаючы, што беларуская кніжка слаба йдзе сягоньня на вёску *з прычыны безграшоўя ў нашага сялянства,* мы і падаем тут плян, як даць раду гэтай бядзе. І рада даволі простая і ня так ужо трудная.

Раз людзі ня могуць кожын сам па сабе купляць кніжкі і выпісываць газэты, бо ня маюць за што, — дык трэба кінуцца да выпрабаванай ужо ў другіх галінах *коопэрацыі.* Трэба *супольнымі сіламі шырэйшага грамадзянства* прыдбаць кніжкі й газэты, без якіх наш народ запраўды-ж хутка проста *зьдзічэе.*

Трэба паруліцца аб арганізацыі па вёсках *беларускіх бібліятэк-чытальняў.*

Кніжкі для бібліятэкі-чытальні можна выпісаць на дагодных варунках з Вільні—праз тутэйшыя беларускія культурна-асьветныя арганізацыі і ўстановы. Можа гэта зрабіць кожын грамадзянін — прыватна, а таксама арганізаваны ў вёсцы нейкі гурток. Трэба толькі мець хату, каб трымаць у ёй кніжкі, — ну, і дазвол уладаў. Аб апошні ізноў-жа трэба клапаціцца праз нашыя культурныя цэнтралі, і мы думаем, што дзяржаўная ўлада, разумеючы карысьць такое акцыі для дзяржавы, ня толькі не павінна перашкаджаць у гэтым, але — наадварот — дапамагаць. А тады грамадзяне, якія захочуць чытаць кніжкі, за дробную ахвяру некалькіх грошы ў месяц будуць мець усё тое, што купіць для іх саматугам немагчыма.

*Арганізацыя бібліятэк-чытальняў* — гэта цяпер наша баявая задача. Гэта — адзіны ратунак ад зьдзічэньня вёскі, якое йдзе аж залішне выразна: аб гэтым сьведчыць нязвычайна багатая ў апошнія часы хроніка п'яных боек, крывавых распраў, забойстваў і г. д. Толькі заінтэрэсаваньне сялянскае моладзі культурнымі запросамі, толькі прабуджэньне ў яе пажаданьня веды можа абараніць нашу вёску ад самагонкавага патопу і няўхільнага пры гэтым узросту крымінальных праступкаў.

*Дайце вёсцы сьвятла, дайце вёсцы кніжку*! — вось найважнейшае заданьне беларускага грамадзянства. А як вёска — дзякуючы арганізацыі бібліятэк-чытальняў — пачне больш кніжак чытаць, дык ізноў вернецца для нас магчымасьць друкаваць беларускія кніжкі і паказаць усяму сьвету, што йшчэ „жыве Беларус і будзе жыць!“

———

**Ад Рэдакцыі.** Рэдакцыя „Бел. Звону“ ахвотна будзе дапамагаць сваім чытачом, якія-б захацелі арганізаваць у сябе бібліятэку-чытальню. Просім аб гэтым да нас пісаць усіх людзей добрае волі.

## У Дзень Памершых.

2-га лістапада — паводле адвечнае традыцыі — Вільня ўрачыста спраўляла Дзень Задушны.

Мо' нават залішне ўрачыста — урачыста „па казённаму“, залішне афіцыяльна: паходы нялічаных дэлегацыяў з аркестрамі і сьцягамі на могілкі—зусім такія-ж, як і тыя, што ў нейкія афіцыяльныя „сьвяты“ адбываюцца на Лукішскім пляцу з тымі ж аркестрамі, з тымі-ж сьцягамі, з тым жа натоўпам „цікавых“. Холадам вее ад усяго гэтага, — нечым штучным, робленым...

Гледзячы на той „кірмаш“, які адбываецца ў Задушны Дзень на віленскай Росе, мімаволі зварачаешся думкай у даўнія, даваенныя часы. Вялікай павагай адзначалася тады адведваньне могілак у гэты дзень. Для моладзі гэта быў дзень асабліва памятны: ня гледзячы на забарону царскае ўлады, ня гледзячы на паліцэйскія кордоны, моладзь ішла на магілы сваіх ідэйных павадыроў і там, слухаючы прамоваў аб даўно зыйшоўшых у магілы ідэйных барацьбітах, сама глыбака захоплівалася ідэяй ахвярнае грамадзкае працы, ідэяй служэньня свайму народу. І з маладых грудзей вырываліся словы песьняў, словы гарачага пратэсту проці чужацкага панаваньня...

Цяпер Дзень Задушны—гэта дэманстраваньне вызваленьня Польскага народу, адбудовы Польскае дзяржавы. Зьмяніліся настроі, зьмяніўся і характар сьвяткаваньня.

* * *

Стары настрой у гэты Дзень Памершых бачым над магіламі беларускіх дзеячоў, пахаваных на магільніку Роса. Бо толькі для нас словы й думкі памершых павадыроў нашых маюць усьцяж значэньне запавету ясьнейшае будучыні, за якую трэ' йшчэ доўга і ахвярна змагацца. Мы ўсьцяж яшчэ, думаючы аб мінулым, мусім з сумам сьцьвярджаць, што сучаснасьць нашая — шэрая, бязрадасная, што толькі недзе „далёка ўперадзе агні“... Вось чаму з іншым настроем прыходзяць на Росу беларусы, чым іх суграмадзяне палякі; вось чаму нам балюча б'ець у гэты дзень на нэрвах той „кірмаш“, які адбываецца на Росе...

Ня дух трыумфу, а дух жалобы лунае над беларускімі магіламі і так добра тонуецца з шэрым асеньнім днём, з тымі чорнымі, блізу зусім ужо аголенымі галінамі дрэў, што сумныя песьні шумам сваім напяваюць Памершым.

* * *

Ня шмат нашых магілаў на Росе. **Ядвігін Ш., К. Сваяк** — гэтыя імёны абмежываюць лік нашых тварцоў красы ў слове, злажыўшых свае косьці ў зямлі адвечнае сталіцы Краю. І калі да іх мы ў Дзень Памершых маем можнасьць прыйсьці і думкамі нашымі з імі зьліцца ўвадно,—дык тым балей трэба ўспамянуць аб тых Сьветлых Ценях, што памiралі далёка ад нас — сярод чужых людзей, на чужой зямлі.

У Татрах—у Закапаным—памер Бацька Беларускага Адраджэньня **Іван Луцкевіч.** Там скромны драўляны крыж адзначае магілу Таго, хто ўсё жыцьцё свае аддаў на служэньне Беларускаму Народу, хто так поўна, дачанца згарэў за Беларускую Ідэю.

У сталіцы СССР—**Маскве**—ляжаць косьці аднаго з найбліжэйшых таварышоў-супрацоўнікаў Ів. Луцкевіча — **Аляксандра Бурбіса.** І той усё жыцьцё аддаў Беларускай Справе, і той, як першы, памер на сваім становішчы...

У Ялце — **на Крыме** — пахаваны **Максім Багдановіч,** слаўны Пясьняр Чыстае Красы, які творчасьцяй сваей узбагачваў душу Народу, расчыняў яму вочы на вялікую сілу Хараства.

Недзе каля **Лодзі** ляжаць косьці **Алеся Гаруна,** сасланага царскім урадам на вечнае жыцьцё ў далёкую Сібір, дзе й загубіў свае сілы маладыя, ня маючы магчымасьці служыць імі свайму Народу. Толькі к канцу жыцьця вярнуўся на Бацькаўшчыну, скуль ізноў ліхая доля яго выгнала на чужыну...

Яны далёка ад нас, і ніхто ня прыйдзе на іхнія магілы ў Дзень Памершых, ніхто не пакладзе вязанкі красак, ніхто не запаліць сьвечкі. Дык няхай-жа ў памяць аб іх загарыцца ў сэрцах нашых полымя такое-ж вялікае любові да Бацькаўшчыны і свайго Народу, якое гарэла ў сэрцах дарагіх нам Нябожчыкаў, няхай наша праца для сьвятое Ідэі, якой служылі яны, аб'яднае нас з імі

* * *

Вера ў магчымасьць павароту душ памершых да жывых, якая ў Дзень Задушны так ярка выяўляецца ў другіх грамадзянствах, мусіць быць асабліва крэпкая ў нас, у беларусаў: бо-ж чатыры разы ў год спраўляюцца ў нас Дзяды, чатыры разы ў год адбываецца паміваньне блізкіх нам нябожчыкаў. І вось, у сувязі з сёлетнім Днём Памершых, мы хочам паддаць нашаму грамадзянству думку, беспасрэдна вынікаючую з народных адносінаў да сваіх „дзядоў“.

Калі тут, у Вільні, дзе ёсьць даволі многа беларускае інтэлігенцыі, магілы беларускіх дзеячоў і барацьбітоў за наш Народ маюць апеку й дагляд, дык ні апэкі, ні дагляду ня маюць магілы тых, хто пахаваны па-за Вільняй. Запраўды: хто быў калі на магіле „Цёткі“, хто ведае, дзе магіла Алеся Гаруна, як выглядае месца вечнага супачынку Івана Луцкевіча? Дык вось: неабходна было б наладзіць грамадзкую акцыю дзеля апекі над магіламі памершых павадыроў беларускага адраджэнскага руху, акцыю адведываньня іх—тут у краі, акцыю прывозу ў родную зямлю костак тых, хто ляжыць і нудзіцца ў чужой зямлі.

Акцыя апекі пад магіламі заслужаных беларусаў павінна абняць ня толькі магілы тых, што сталіся агульна-нацыянальнымі Сьвятымі. Кожнае места, кожная вёска мае напэўна і сваіх мясцовых дзеячоў, заслужыўшых на грамадзкую пашану, і іхнія магілы мусяць стацца ў Дзень Памершых месцам зборак і яднаньня думкамі з нябожчыкамі.

Ня будзем сяньня разьвіваць падрабязнага праекту арганізацыі такое акцыі: напамінаем толькі нашаму грамадзкаму сумленьню абавязак жывых у адносінах да памершых.

2. XI. 1932 г. **А. Н.**

# Жыцьцё Польшчы.

### Скліканьне сэсіі Сойму.

Дэкрэтам Прэзыдэнта склікана сэсія Сойму і Сэнату ад дня 31. X. 1932 г.

Апрацаваны ўжо ўрадам бюджэт на 1933|34 г., які будзе паданы Сойму на гэтай сэсіі ў першую чаргу, аблічаны ў частцы даходаў на 2 мільярды 88 мільён., а ў частцы выдаткаў—на 2.449 мільёнаў злот. Такім чынам быджэтны недахоп прадбачыцца ў суме 361 мільён. злот.

Мін. скарбу Завадзкі даў у „Газ. Польскай“ адказ на пытаньні аб тым, наколькі, як кажуць, рэальны гэты бюджэт, гэта значыць: наколькі верыгодныя прадбачаныя ўім даходы, а таксама—ці ня будзе вялікшых выдаткаў, і ці знойдзе ўрад крыніцы, з якіх удалося-б пакрыць недахоп. Міністар сказаў, што даходы аблічаны вельмі скупа; выдаткі. наадварот, можна будзе навет абрэзаць, асабліва, калі ўраду ўдасцца дабіцца зьніжэньня цэн на розныя тавары і прадукты; ўрэшце, недахоп мае быць пакрыты, можа навет цалком, з скарбовых запасаў (гэта значыць—з астачы ад папярэдніх бюджэтаў), а калі дазволяць варункі грашовага рынку, дык у патрэбнай частцы — і шляхам замежнай пазыкі.

### Зьмена міністра замежн. спраў.

Міністар замежных спраў Польшчы Залескі падаўся ў адстаўку. На яго месца назначаны ягоны заступнік Бэк, давераная асоба марш. Пілсудскага.

### Ліквідацыя эндэцкага „Абозу Вялікай Польшчы“.

У цэлым радзе мясцовасьцяў Польшчы, асабліва ў яе заходніх ваяводзтвах, урад зачыніў аддзелы так званага „Абозу Вялікай Польшчы“, арганізацыі, якую залажыў Дмоўскі, каб падрыхтоўваць і гуртаваць сілы „Нацыянальнай Польшчы“, прасьцей: эндэцыі. У хуткім часе трэба спадзявацца поўнае ліквідацыі гэтай арганізацыі.

Перачытаўшы газэту — перадай другому.

# З украінскага жыцьця.

### Польская прэса аб украінцах.

Як некалі польская прэса — пасьля разгрому „Грамады“—пісала розныя недарэчнасьці аб падгатоўцы беларусамі аружнага паўстаньня проці Польшчы,—гэтак сама перад апошнім разгромам „Сельробу-Еднасьці“ пачалі польскія газэты пісаць аб украінцах. Але пад той час, як аб беларусах усялякую хлусьню друкавалі згодным хорам усе польскія газэты, аб украінцах у падобным „стылю“ гаворыць толькі эндэцкая прэса.

„Газэта Варшавска“, галоўны орган польскіх чорнасоценных нацыяналістаў, у нумары з 22. IX проста пісала, што падгатаўляецца ўкраінскае паўстаньне ў Галічыне. Бо як-жа: ўкраінцы адкрыта—на вялікіх публічных сходах (прыкладам у Сокалю — пры 12.000 народу!)—славілі памяць вялікага барацьбіта за волю Украіны, гэтмана Мазэпы! А вывад—ясны: „тащить и не пущать!“ як казаў калісь расейскі „гарадавой“... Пры гэтым эндэцкі орган закідаў сучаснаму польскаму ўраду, што ён больш дае волі ўкраінцам, чым эндэкам, а гэта ўжо нямінуча давядзе да адарваньня Усходняе Галічыны ад Польшчы...

Проці гэтага выступіла санацыйная „Газэта Польска“. Гэты орган вельмі рашуча заяўляе, што такія адносіны, якія існуюць між польскім і ўкраінскім грамадзянствам цяпер, напэўна да дабра не давядуць. Адны адных ня толькі не прызнаюць, але і нічога аб сабе ўзаемна ня ведаюць. Яшчэ украінцы больш цікавяцца польскім культурным жыцьцём, польскай літэратурай. Але палякі ні ўкраінскай культурай, ні літэратурай, ні настроямі грамадзянства—зусім ня цікавяцца. У Львове ў два багатыя ўкраінскія музэі блізу ніхто з палякоў не заглядае. Аб украінскай літэратурнай творчасьці ад часу вайны адбылася ў Львове ў 1928 годзе аднаадзіная публічная дыскусія—ў салі суда на палітычным працэсе некалькіх украінскіх дзеячоў... „Газ. Польска“ заклікае польскае грамадзянства зламаць гэты „кітайскі мур“ між палякамі і ўкраінцамі.

Як усё гэта знаёма нам—беларусам! Мы толькі чытаем у польскіх газэтах нясупынныя выкрыкі, што ў беларусаў нічога няма, але тым, што мы маем — нашай літэратурай і культурнай творчасьцяй, ніхто ня хоча пацікавіцца. У беларускім Музэі ім. Ів. Луцкевіча ў Вільні было больш гасьцей з Амэрыкі, Англіі, Норвэгіі, Нямеччыны і г. д., чым —прадстаўнікоў польскага грамадзянства. І слушна: заплюшчыўшы вочы, лягчэй крычаць, што ў беларусаў нічога няма!

# З жыцьця ў Б. С. С. Р.

### Як там у Менску з дрывамі?

„Зьвязда“ з 16. X. 32 г. падае: „плян завозу дроў для Менску вызначан сёлета ў 22 тысячы вагонаў, з якіх 7 тыс. для прадпрыемстваў Менску і 15 тысяч для забясьпечаньня рабочых і служачых. Як жа стаіць справа з выкананьнем гэтых кантрольных лічбаў?“ Трэба адзначыць, што далёка не здавальняюча. За тры кварталы бягучага году атрымана насельніцтвам Менску ўсяго 9,168 вагонаў, што складае 61,12 проц. Асабліва марудна ідзе падвозка дроў за апошні час. Калі ў верасьні Менск атрымліваў у сярэднім 40 вагонаў у дзень, дык у кастрычніку прыбываюць і разгружаюцца толькі 3—4 вагоны. На вучастках дровы загатоўлены, але з падвозкай іх да чыгункі справа стаіць вельмі дрэнна.

Цікава, што дзе-якія ўстановы нават хлусяць, каб атрымаць лішнія дровы. Белбудкантора зрабіла заяўку на 442 топкі, ўключыўшы сюды дом І. Т. Р., у якім яшчэ ўкладаюцца сьцены, і 112-кватэрны дом з 200 печкамі, дзе жыхары атрымліваюць дровы, як пайшчыкі.

### „Бульба—Ленінграду“.

Пад такім дэвізам „Сав. Беларусь“ мае сачыць за вывазам бульбы з Беларусі ў Ленінград. Гэтак сказаная газэта з 18. X. 32 г. піша: „З 191 тысячы тоннаў бульбы, якія Беларусь павінна адгрузіць Ленінграду, паступіла толькі 40 тысяч тоннаў. Гэта стварае непасярэднюю пагрозу зрыву забясьпечаньня Ленінградзкага пролетарыяту бульбай на зімовы сэзон“. „Зараз Ленінград павінен шкодзенна атрымліваць ня менш 10 тысяч. тон. бульбы, паступае-ж ня больш 4 тыс. тон. Такое паступленьне ня толькі тармазіць стварэньне запасу бульбы на зімовы сэзон, але нават не пакрывае штодзенную патрэбу Ленінградзкага насельніцтва.

Гэтак—з „Бульбай—Ленінграду“: а што ж нарэшце для Беларусі? Хіба мякіна, але і то ці напэўна?

### І памольны збор ня йдзе.

Дзеля таго, што апошнім часам што раз то менш ўплывае памольнага збору да Беларускай Канторы па загатоўцы зярна, спэцыяльна ўстаноўлены камітэт пры Савеце працы і абароны БССР зрабіў адумысную пастанову, зьмешчаную ў „Савецкай Беларусі“ з 29. X. 32 г. Паводле гэтае пастановы прыймаецца цэлы рад мераў дзеля забясьпечаньня памольнага збору аж да... інтэрвэнцыі пракурора.

### Як выконываецца плян каапэрацыйнай сыстэмы?

„Савецкая Беларусь“ з 29. X. 32 г. так піша на гэтую тэму: „Разьвіцьцё каапэрацыйнай сыстэмы БССР адстае ад плянавых намётак. Так, калі паводле пляну ў 1932 г. трэба было адкрыць новых 47 магазынаў і 805 ларкоў, дык па сёньняшні дзень адкрыты толькі 42 магазыны і 402 ларкі. Невыкананьне плянаў па разгортываньню сеткі гандлёвых магазынаў і ларкоў трэба лічыць вынікам слабога кіраўніцтва“.

### Студэнцкая практыка.

У „Зьвязьдзе“ з 29. X. 32 г. чытаем вельмі цікавы ліст, падпісаны студэнтамі-практыкантамі з Будаўнічага Інстытуту. Зацытуем з яго пару слоў: „19. X—нас зьнялі з практыкі ў аўта-гаражу і паслалі ў камбінат. Дзесятнік адказаў нам, што работы ён для нас ня мае, апрача ачысткі двара і 9 пакояў. Па прыездзе ў інстытут, дырэктар для нас знайшоў працу—цьвікі драць. Бачыце, гэта, мабыць, вельмі добра падыходзіць для набыцьця практыкі, як будучым інжынерам. Ніякай падрыхтоўкі для правядзеньня работ няма, няма матэр'ялаў, няма інструмэнтаў, адсутнічае спэцыяльная вопратка. Мы пакуль-што робім прымусовыя прагулы, практыка наша зрываецца“.

Вось маленькая красачка з савецкага студэнцкага жыцьця. Цікава, якія запраўды будуць інжынеры з такіх студэнтаў?

### Коні гуляюць.

Як падае „Зьвязда“ з 29. X. 32 г. ў калгасе „Чырвоная перамога“ ў Случчыне калгасьнікі запраўды „перамаглі“, бо на 43 коні ў калгасе ёсьць толькі 15 камплектаў збруі, а дзеля гэтага коні спакойна ходзяць па полі, і ніхто іх ня думае выкарыстаць.

### Дом Вучоных у Менску.

Як падае „Зьвязда“ з 25. X. 32 г., пры новаадчыненым у Менску Доме Вучоных паўстае бібліятэка, чытальня, паліклініка і сталоўка выключна для сяброў Дому. Да гэтага часу прыняты 123 чалавекі: 7 акадэмікаў, 35 прафэсароў, рэшта — навуковыя працаўнікі вышэйшай катэгорыі. З гэтай колькасьці — 48 чалавек сябры і кандыдаты кам. партыі.

У савет Дому Вучоных выбраны: Бэнэк, Платун, Ляўкоў, Рыстлін, праф. Гаўсман, акадэмік Панкевіч, прэзыдэнт БАН Горын, акад. Бурстын, акад. Вольфсон, праф. Сурта, Якуб Колас, праф. Рубашоў, праф. Пятуховіч, Кандыбовіч, Шапіра, Барысэвіч і інш.

# Як перасылаць грошы за газэту.

Гэтым паведамляем нашых падпішчыкаў, што яны могуць перасылаць належныя нам грошы за газэту гэтакім спосабам: 1) купіць на пошце блянк для пераказу на рахунак П. К. О., які каштуе толькі 5 гр., 2) запоўніць яго, як належа, упісаўшы адрас беларускае кнігарні Ул. Манкевіча (Księgarnia Białoruska Wł. Mankiewicza, Wilno, Ostrobramska 1) і нумар конта 61991, 3) на адвароце часткі блянку „dla adresata“ напісаць: „За газэту“— і 4) бясплатна здаць разам з блянкам пасыланую суму на пошце.

# З усяго сьвету.

## Новы францускі пляи разбраеньня.

Сэнсацыяй палітычнага дня ў Эўропе зьяўляецца новы плян агульнага разбраеньня, апрацаваны францускім прэм'ерам Эрыё.

Эрыё згаджаецца зьменшыць колькасьць францускай арміі, а таксама тэрмін службы ў войску. З свайго боку Францыя ставіць такія варункі: каб у-ва ўсіх дзяржавах была скасавана прафэсіянальная армія, але існавалі-б толькі каротка-тэрміновыя кадры арміі з набору; каб лічба паліцэйскіх у Нямеччыне была значна зьменшана; каб быў створаны спэцыяльны орган для міжнароднага кантролю над аружнымі сіламі ўсіх дзяржаваў; каб пры Лізе Нацыяў была створана паволі магутная армія з ваенных фахоўцаў, азброеная ўсімі тымі гатункамі найсільнейшых ваенных прыладаў, якія маюць быць забаронены паасобным дзяржавам. Далей францускі плян разбраеньня трэбуе, каб граніцы і бясьпечнасьць у Эўропе былі загарантаваны ня толькі ўсімі яе вялікімі дзяржавамі, але і Амэрыканскімі Штатамі. Урэшце—ўсе дзяржавы павінны падпісаць агульны трактат ад абавязкавым палюбоўным судзе ў разе спораў і канфліктаў.

Характэрна, што Францыя сама прапануе зламаць Вэрсальскі трактат, які якраз забараняе Нямеччыне мець армію зьменнага складу (з штогодняга набору), а дазваляе мець толькі фаховую, наёмную. Калі немцы зрабілі з гэтай невялікай арміі грозную сілу, даўшы ей найсільнейшае азбраеньне ў сьвеце, дык Францыя цяпер прапануе замяніць гэтую армію фахоўцаў—наборнай.

Францускі плян разбраеньня ня мае ніякай надзеі на блізкае ажыцьцяўленьне.

## Напярэдадні выбараў у Нямеччыне.

У гэту нядзелю, 6 лістапада, маюць адбыцца ў Нямеччыне новыя агульныя выбары ў парлямант. Як ведама нашым чытачом, канцлер (прэм'ер) Паппэн распусьціў парярэдні Рэйхстаг (Сойм), калі даведаўся, што на першым жа паседжаньні той блізу аднагалосна маніцца выразіць ягонаму ўраду недавер.

Які будзе вынік выбараў, няведама.

## Паходы галодных на сталіцы дзяржаў.

У апошнія часы, ў зьвязку з гаспадарчым крызісам, наглядаецца характэрнае зьявішча. Беспрацоўныя работніцкія масы, згуртаваныя ў вялікіх прамысловых раёнах, даўно ўжо знайшлі спосабы „напамінаньня“ аб сваім лёсе адказным кіруючым колам дзяржаваў. Але сялянскія масы, параскіданыя хутарамі ці вёскамі на вялікіх прасторах, ставаліся на мясцох, ня рухаліся, хоць таксама церпяць ад крызісу. Цяпер сьведамасьць сялянскіх масаў неяк расьце, і яны пачынаюць рухацца. Нядаўна ў Румыніі і Югаславіі адбыліся вялізарныя 100-тысячныя „паходы сялян“ у сталіцы ці пад сталіцы гэтых дзяржаваў на „агульна-сялянскія кангрэсы“. Паходы гэтыя, зусім мірныя, ў поўным парадку, пад кіраўніцтвам сваіх правадыроў, выяўлялі пачуцьцё еднасьці і салідарнасьці ў шырокіх масах сялянства і мелі мэтай напомніць іншым, непадзельна пануючым у дзяржаве клясам аб вялікай моцы і вялікай ролі сялянства ў жыцьці дзяржавы, ролі, якая павінна даваць сялянству і адпаведны ўплыў на ўсю палітыку дзяржавы. У Англіі і Амэрыцы масы згалеўшых сялян і работнікаў гэтак сама ідуць у сталіцы, каб напомніць сваім урадам, што яны галадаюць... Сталічныя ўлады прымаюць усе меры, каб, як кажуць, „добра прыняць“ непажаданых гасьцей дый чым хутчэй пазбыцца клопату.. Паходы гэтыя маюць ведамае значэньне, як мірныя дэманстрацыі, напамінаючы пануючым клясам аб лёсе клясаў працуючых. Правадыр аднаго з такіх паходаў у Амэрыцы сказаў дасьціпна: „Багатыя і сытыя, памятайце аб галодных і бедных: тады яны забудуць аб вас! Бо-ж горш будзе, калі мы, бедныя і галодныя, будзем залішне добра памятаць аб багатых і сытых“...

У Лёндане галодныя дэманстранты мелі крывавыя сутычкі з разганяўшымі іх паліцыянтамі.

## Чырвоная армія ў Кітаі перайшла ў наступленьне.

Добра падрыхтаваўшыся, чырвоная армія ў Кітаі, паводле японскіх вестак, распачала наступленьне, маючы прыняць рашучае ўчасьце ў ваенных падзеях.

# ХРОНІКА.

**— Беларусы пазбаўлены голасу.** 8—10 лістапада ў Варшаве мае адбыцца чарговая сэсія Камісіі з прадстаўнікоў праваслаўнай іерархіі і ўраду—дзеля падрыхтаваньня скліканьня Сабору Праваслаўнай Царквы ў Польшчы.

У апошні час адбываліся нарады паміж мітрапалітам Дзянісам і ўкраінскімі пасламі ды сэнатарамі (праваслаўнымі), ў выніку чаго ў склад прад-саборнага сабраньня ўвайшлі два новыя сябры ўкраінцы: пасол Богуслаўскі і Бура. Такім чынам украінскае прадстаўніцтва ў перад-саборным Сабраньні ў ведамай меры забясьпечана. Толькі голасу беларускага царкоўнага грамадзянства ані іерархія, ані ўрад на Сабраньні не пачуе. Ці гэта справядліва і разумна?

**— Праца літэратурна-мастацкае сэкцыі Бел. Нав. Т-ва.** 1-га лістапада адбылася другая зборка літ.-маст. сэкцыі Б. Н. Т-ва. На зборцы прачытаў цікаўны рэфэрат грам. П. Сергіевіч, закранаючы ў ім рад падставовых проблем мастацкае творчасьці. Рэфэрэнт выклікаў жывы абмен думак, разьвіваўшых і дапаўняўшых тэзісы рэфэрэнта.

Наступная зборка сэкцыі адбудзецца 18 лістапада ў 4 гадз. па пал. у памяшчэньні бібліятэкі Беларускага Музэю ім. Ів. Луцкевіча. Зборка пасьвячона будзе літэратурным справам і на парадку дня прадбачыць: 1) рэфэрат Хв. Ільяшэвіча ў справе апрацаваньня беларускае літэратурнае бібліяграфіі; 2) паведамленьне А. Луцкевіча аб новаадкрытых пісьмах і вершах Максіма Багдановіча.

**— Цэнны набытак Бел. Музэю.** Беларускі Музэй ім. Ів. Луцкевіча зрабіў цэнны набытак: за 250 злот. закуплена фігура Хрыста, зробленая з выбіванае меднае залочанае бляхі з маляваным фарбамі тварам. Работа старая нейкага мяйсцовага майстра, характару дужа прымітыўнага. У цэннай колекцыі народнае разьбы новы набытак займе пачэснае месца.

**— „Самапомач“.** Мы неадпаваротна заклікалі нашых дзеячоў і нашыя вясковыя масы шукаць ратунку ад сучаснага крызісу на шляху самапомачы — шляху коопэрацыі. Мы адзначалі неабходнасьць агульна-беларускае акцыі ў гэтым кірунку, — але, разумеючы.

# Творчасьць Данілкі.

(Апавяданьне),

Устаўшы і агледзіўшыся навокал сябе яшчэ раз, ці ўсё ў парадку, Данілка разлажыў на мураве свой сшытак і ўзяўся за алавік.

— Коні ходзяць добра. Паміж карчоўем, на ялавых загонах шчыплюць зялёную траўку. Каб вось толькі ў шкоду ня ўбраліся, у авёс да асадніка, ці ў сенажаць чыю—думае Данілка.—З гэтага ўзгорку ўсё відна, і—пісаць можна.

Данілка даўно адчувае пазыў да творчасьці, і толькі вось абставіны ня спрыяюць.

Яшчэ як толькі пачаў хадзіць да школы, яму хацелася напісаць самому нешта гэткае цікавае, як тое, што часамі чытаў ім вучыцель. І ён складываў аркуш паперы ў некалькі разоў, сшываў голкаю, абрэзываў краі, каб было зусім падобна да кніжачкі, і пісаў. Пісаў аб тым, як ішоў сабе гэткі хлопчык Янка лесам, а на яго напалі ваўкі. Янка залез на вялікае дзерава і гукнуў, аж прыбег бацька і прагнаў ваўкоў...

Але падрос Данілка. Прайшлі гады гульні, бязтурботнасьці, бязьдзельля. Пара дапамагаць бацьку ў працы. І вось ад рана і да вечара Данілка працуець. Побач з бацькам і ў полі, і на сенажаці, і ў лесе.

А ўсё-ж і за працаю не пакідаюць яго думкі аб творчасьці. Ці то косіць з бацькам на сенажаці, думкі шалёна працуюць, увесь ён разгарачыцца ад хваляваньня, твар гарыць, і, сам не заўважваючы таго, бацьку далёка пакідаець ззаду, каса знай лётаець у гарачцы.

— Добрага памоцніка маю на старасьць — напэўна думаець бацька, дарэмна сьпяшаючыся за сынам з мокраю чупрынай.

А часам малоціць Данілка адзін у пуні. Бацька паедзе ў поле, і, карыстаючыся гэтым, Данілка кідае цапа і бяжыць хутчэй да хаты, сьпяшаецца, каб запісаць на паперы апанаваўшую тэму. Але—толькі засядзець з алавіком, толькі набярэцца натхненьня, толькі-б тады і пісаць — самыя словы адны за аднымі просяцца на паперу, як глянь — бацька едзе з поля.

— Колькі змалаціў? — і настрой прападае, як халоднай вадою абальець. Мусіш сьпяшацца да цапа.

— Ліхі з майго сына работнік — падумаець ня раз бацька. Не разумеў стары перажываньняў Данілкі.

А прыйдзе сьвята якое, дык адпачыць хацелася-б, але—дзе там! То снапы перасушыць, то намалочанае за тыдзень жыта зьвеяць, то па сена ехаць, і — ўсё вольнае хвіліны няма.

У вёсцы быў звычай пасьвіць коні па чарзе (па „калейцы“). Данілка чакаў на гэты дзень, і вось ён надыйшоў, і можна ўзяцца за алавік.

Дый дзень выдаўся гэткі пекны. Усё навокал так прыгожа.

---

Ужо з паўгадзіны Данілка ляжаў на ўзгорку, і маленькі алавічок у ягонай руцэ бегаў па белай паперы, пакідаючы за сабою чорныя радкі.

Успомніў пра коні. Устрывожана падняў галаву і агледзіўся навакола. Коні паволі разыйшоўшыся шчыпалі траву, і прыемна было слухаць іх манатоннае хрумканьне.

— Сьвет такі прыгожы — падумаў Данілка, і маленькі алавічок ізноў забегаў па паперы.

Часам адарвецца і доўга глядзіць — дзівуецца, ачараваны гэтай прыгожасьцю. Густыя воблакі ўсялякіх форм плывуць—адны супакойна вялічава, другія шпарка, якбы сьпяшаючыся куды. Калі-некалі выглянець з-за воблака белы кружок сонца і пабяжыць далей.

Успомніў ізноў аб конях.

— Задалёка разыйшліся, — падумаў, — некаторых ужо ня відна з-за карчоўя. Э, няхай сабе ходзяць...

І ён ізноў ляціць на крыльлях творчасьці...

Блукаючы пагляд астанаўліваецца на „незапамінайках“ сярод травы, галубыя галоўкі якіх дрыжаць, хістаныя ветрам.

— Аб чым задумаліся? Ці ўспамінаючы романсы ў мінулым сумна-задумана ківаюць галоўкамі? Аб чым шапочуць зялёныя лісткі на дрэвах? З кім вядуць ціхую гутарку?...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— A-a! Psia krew! znalazłem cię! — і ня здолеў Данілка ўсьведаміць сабе, што сталася, як раз за разам запяклі яму на плячох два моцныя ўдары біэуном.

Як апараны ўскочыў і кінуўся наўцёкі Данілка, не ўхапіўшы забраць свайго сшытка. А калі, адбегшы, астанавіўся і агледзіўся ўзад, то абачыў здалёк, як асаднік гнаў яго коні з аўса ў свой загарад, а на тым узгорку, дзе пісаў Данілка, стаяў парабак і, лаючыся, рваў на кавалкі накрэсьленыя натхнёнай рукою яго творы...

Белыя сьняжынкі — паперкі разьляцеліся па зялёнай траве.

Данілка сумна ўсьміхнуўся...

„Незапамінайкі“ задумана з спачуцьцём заківалі галубымі галоўкамі.

**Ул. Ляшчына.**

